Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 18 230.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 16 снежня 1998 г. № 136 (528) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Курс на Маскву

*Сустрэча прэзідэнта А.Лукашэнкі з Барысам Ельцыным адбудзецца заўтра, 17 снежня*

Плануецца, што беларускі прэзідэнт прыбудзе ў Маскву сёння ў другой палове дня. Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца таксама з расійскім прэм'ерам Яўгенам Прымаковым, кіраўніком Цэнтрабанка Віктарам Герашчанкам, мэрам Масквы Юрыем Лужковым і міністрам унутраных справаў РФ Сяргеем Сцяпашыным.

А.П.

## Немцаў выратаваў наш верталёт

**Міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў узнагародзіў экіпаж верталёта Мі-8, які 20 кастрычніка гэтага года выратаваў чатырох нямецкіх грамадзян, што пацярпелі ў выніку дарожна-транспартнага здарэння на дарозе ў раёне Мсціслаўя (Магілёўская вобласць).**

Па просьбе пасольства ФРГ міністэрства абароны Беларусі выдзеліла верталёт, які ў дастаткова складаных умовах надвор'я даставіў пацярпелых з месца аварыі ў Мінск. Загадам кіраўніка ваеннага ведамства камандзір экіпажа маёр Ігар Душкін узнагароджаны каштоўным падарункам, а астатнім двум членам экіпажа і апаратыўнаму дзяжурнаму — начальніку змены Цэнтральнага каманднага пункта Ваенна-паветраных сіл рэспублікі палкоўніку Уладзіміру Ваўліну — абвешчана падзяка.

*БелаПАН*

## У мінюста ёсць пытанні

**Дакументы нядаўна створанай пры падтрымцы Аляксандра Лукашэнкі Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў (БКП) прадстаўленыя для рэгістрацыі ў міністэрства юстыцыі.**

Але ў сувязі з прыпыненнем рэгістрацыі юрыдычных асоб БКП можа быць зарэгістраваная толькі з асобага дазволу А.Лукашэнкі. Акрамя таго, мінюст устанавіў, што Саюз недзяржаўных прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў з'яўляецца не грамадскай, а камерцыйнай арганізацыяй і, значыць, не можа быць удзельнікам БКП, якая, як вядома, з'яўляецца саюзам грамадскіх арганізацыяў. Нагадаем, што дэпутат прэзідэнцкага парламента Сямён Ліўшыц, які ўзначаліў Канфедэрацыю, быў абраны ў БКП менавіта ад Саюза недзяржаўных прадпрыемстваў.

С.Б.

## Долар паўзе ўверх

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску раніцай 15 снежня долар куплялі па 245.000—250.000 і прадавалі па 255.000—260.000 рублёў. У параўнанні з папярэднім днём курс узрос у сярэднім на 5.000 рублёў.

*БелаПАН*

## Навагоднія чэргі

**Пасля 20 снежня ў крамах беларускай сталіцы пачнецца гандаль беларускімі шампанскімі вінамі.**

Як паведамілі ў Мінскім гарвыканкаме, у гандлёвую сетку горада паступіць каля аднаго мільёна бутэлек шампанскага, якое будзе каштаваць у межах 300 тысяч рублёў.

А.А.

*Беларускае міністэрства абароны заключыла з Кітаем кантракт на 500 мільёнаў долараў. Але вайсковае ведамства атрымае з гэтай сумы толькі 10 працэнтаў. Куды пойдуць астатнія 450 мільёнаў — невядома*

## Недатыкальны запас прадаецца ў Кітай

**Тавар знаходзіцца ў Брэсцкай вобласці на базе НЗ «Красны Бераг». З часоў СССР там захоўваюцца спецыяльныя трубы, менавіта яны і спатрэбіліся Кітаю.**

Гэтыя трубы выробленыя з асаблівага антыкаразійнага і антыкіслотнага сплаву. Іх трымалі як недатыкальны запас на той выпадак, калі раптам у нейкім вялікім горадзе выйдзе са строю водаправод альбо будуць заражаныя водаачышчальныя сістэмы. Акрамя таго, у савецкія часы яны прызначаліся для пракладкі вайсковых трубаправодаў.

У Брэсцкай вобласці каля г.Жабінка ёсць база ГСМ, якую ахоўвае і абслугоўвае в/ч 51786. Пад кантролем гэтай вайсковай часткі знаходзяцца чатыры велізарныя сховішчы гаруча-змазачных матэрыялаў. Акрамя дызельнага паліва, там захоўвалася таксама ракетнае паліва, якое прызначалася для мабільных ядзерных ракет SS-25, што стаялі на базавым дзяжурстве (да восені 1996 г.) каля Слоніма і Ліды. Усе чатыры сховішчы злучаныя паміж сабою сеткаю падземных трубаправодаў. Адзін з іх працягнуты аж да мястэчка Свіслач Гродзенскай вобласці. Паводле некаторых звестак, ёсць нават ветка да балтыйскага порта г.Клайпеда. У часы СССР яна выкарыстоўвалася для запраўкі дызельных падводных лодак.

Уся гэтая інфраструктура даўно састарэла, пра што сведчаць азёры нафтапрадуктаў, якія перыядычна з'яўляюцца над трубаправодамі. На рамонт і якаснае абслугоўванне ні сродкаў, ні тэхнікі ў вайскоўцаў няма. Цяпер жа, па ўмовах кантракта, міністэрства абароны абавязана адправіць кітайцам апошнюю тэхніку, якая трымалася ў якасці недатыкальнага запасу на крайні выпадак. Сюды ўваходзяць 4 трубаўкладчыкі на базе К-701, спецыялізаваныя экскаватары, а таксама іншая дапаможная тэхніка. У сувязі з разваламі ВПК Расіі такая тэхніка ўжо не выпускаецца.

Ва ўмовы кантракта яшчэ ўваходзіць камплект трубаў са сховішча «Красны Бераг». Усяго труб 27 тысяч адзінак. Калі іх скласці, то атрымаецца траса працягласцю больш за 500 км. Лічыце: адзін метр трубы каштуе больш аднаго долара.



*За адпраўку грузу ў Кітай адказвае міністр абароны генерал Чумакоў.*

Самае цікавае, што з агульнай сумы кантракта ў 500 мільёнаў долараў міністэрства абароны атрымае толькі 10%, а куды пойдуць астатнія 90 працэнтаў — ніхто не ведае. Тэхніка ў аўральным парадку ўжо амаль сабраная і ўкамплектаваная. Хутка пачнецца адгрузка труб. Усё гэта будзе даастаўлена ў порт горада Нікалаева на кітайскі сухагруз. Пасля прыбыцця грузу ў пункт прызначэння з Беларусі ў Кітай будуць камандзіраваныя некалькі нашых спецыялістаў для навучання кітайскіх «таварышаў».

**Мікола ГРЫНЯВІЦКІ**

## Выбары без «штрафнікоў»

*Аляксандр Лукашэнка зрабіў у панядзелак нечаканую заяву наконт выбараў*

Падчас сустрэчы са старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай прэзідэнт Лукашэнка заявіў, што ён настойвае, каб у новым выбарчым законе была ўведзеная забарона на ўдзел у выбарах тым кандыдатам, якія прыцягваліся да адміністратыўнай адказнасці.

Пры гэтым Лукашэнка папярэдзіў дэпутатаў ніжняй палаты, што калі яны не прагаласуюць за такі артыкул, то ён уведзе абмежаванне сваім дэкрэтам. Няма ніякага сумнення, што падобным чынам беларускі прэзідэнт вырашыў не дапусціць да будучых выбараў сваіх палітычных апанентаў. Справа ў тым, што ў Беларусі фактычна няма ніводнага апазіцыйнага палітыка, якога б не прыцягвалі да адміністратыўнай адказнасці (папярэджанні, штрафы, арышты да 15 сутак) за ўдзел у вулічных акцыях пратэсту. Цяпер жа ўсе яны будуць пазбаўленыя магчымасці быць абранымі нават у дэпутаты сельсавета.

Апазіцыянеры гавораць, што былі гатовыя да такога кроку Лукашэнкі. Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка, напрыклад, лічыць, што нічога нечаканага не адбылося. Фронт, па яго словах, даўно гаварыў, што пры цяперашнім рэжыме ніякія выбары (ні дэмакратычныя, ні паўдэмакратычныя) немагчымыя ў прынцыпе. Заява прэзідэнта, на думку В.Вячоркі, павінна развеяць ілюзіі ў тых нашых калегаў па дэмакратычным блоку, якія яшчэ спадзяваліся паўдзельнічаць у выбарах. Гэта таксама ўрок і для міжнароднай супольнасці, якая настойвала на правядзенні выбараў нават ва ўмовах дыктатуры.

Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Генадзь Карпенка лічыць, што Аляксандр Лукашэнка панічна баіцца свабодных выбараў. *«Прэзідэнт гэтыя выбары прайграў ужо даўно, яму засталося быць пры ўладзе не больш як паўтара года»,* — упэўнена кажа Карпенка.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

*Сустрэчы*

***Чакаецца, што ў канцы гэтага тыдня прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка сустрэнецца з губернатарам Санкт-Пецярбурга Уладзімірам Якаўлевым.***

*Віншаванні*

***14 снежня Аляксандр Лукашэнка накіраваў віншаванне мітрапаліту Філарэту з нагоды дня яго тэзаіменінаў. У пасланні прэзідэнта выказваецца ўпэўненасць, што і ў будучыні дзейнасць мітрапаліта Філарэта будзе прыносіць «важкі плён на ніве духоўнага адраджэння народаў і дружбы паміж імі».***

*Канфіскацыі*

***З пачатку гэтага года праваахоўныя органы Беларусі прыцягнулі да адміністратыўнай адказнасці за незаконныя валютныя аперацыі больш за 2,5 тысячы грамадзянаў. У іх канфіскавана каля паўмільёна долараў, 40 тысяч нямецкіх марак.***

*Даўгі*

***Па словах намесніка міністра фінансаў РФ Міхаіла Касьянава, Расія будзе дабівацца вяртання 300—400 мільёнаў долараў у год ад краін-даўжнікоў, якіх налічваецца каля 60.***

## Таццяна – дачка Барыса



Сёння ў Крамлі застаўся толькі адзін чалавек, здольны з ранку да вечара ўплываць на ўсё больш непрадказальнага Барыса Ельцына. Гэта ягоная дачка Таццяна Дзьячэнка.

*(Матэрыял на гэтую тэму чытайце на стар. 3)*

## Прэзідэнт згадзіўся знізіць планку

**Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка згадзіўся з прапановай дэпутатаў свайго парламента аб унясенні ў праект закона аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў нормы аб зніжэнні парога яўкі выбаршчыкаў у другім туры галасавання з 50-ці да 25-ці працэнтаў.**

Але прэзідэнт падкрэсліў, што гэтая мера павінна датычыцца толькі выбараў у мясцовыя Саветы і ні ў якім разе не ўносіцца ў законапраекты, якія будуць рэгуляваць выбары прэзідэнта і парламента краіны. Пра гэта Аляксандр Лукашэнка заявіў учора падчас сустрэчы са старшынёй Цэнтральнай выбарчай камісіі Лідзіяй Ярмошынай.

А.П.

# Ці ёсць у вас план, містэр Ярмошын?

Мінскія ўлады працягваюць акцыю па зборы сродкаў на закупку прадуктаў харчавання за мяжой. Як паведамілі ў прэс-цэнтры Мінскага гарвыканкама, на ўчарашні дзень у так званым стабілізацыйным фондзе ўжо сабрана 36 мільярдаў рублёў, 174 тысячы долараў і 7 тысяч нямецкіх марак. Сярод «перадавікоў» фігуруюць прадпрыемства «Інтэграл», Мінскі завод колавых цягачоў, завод імя Вавілава.

Тым часам, як паведамляе «Белорусская деловая газета», адміністрацыі раёнаў Мінска атрымалі заданні сабраць пэўныя сумы валюты для стабілізацыйнага фонду на сваёй тэрыторыі. Напрыклад, план для адміністрацыі Цэнтральнага раёна Мінска склаў 685 тысяч долараў, Савецкага раёна — 360 тысяч, Першамайскага — 310 тысяч, Кастрычніцкага — 228 тысяч долараў.


*Мэр Мінска Уладзімір Ярмошын: а што калі выбіць валюту?*

Зразумела, што сабраць гэтыя сумы надзвычай цяжка. Ніякае прадпрыемства не хоча развітвацца з валютай, якой і так няшмат або зусім няма. Таму ў большасці раёнаў Мінска вырашылі «падаіць» прыватных прадпрымальнікаў. Іх запрасілі на нарады ў раённыя адміністрацыі, дзе «слёзна» папрасілі дапамагчы з валютай. Большасць збядненых гандляроў адказала, што яны нічым не могуць дапамагчы роднаму гораду.

Тады ў ход пайшлі іншыя аргументы. Напрыклад, у рэдакцыю «БДГ» звярнуўся прадпрымальнік, які гандлюе на рэчавым рынку «Дынама», і паведаміў, што прадстаўнікі адміністрацыі Савецкага раёна, пагражаючы «вялікімі непрыемнасцямі», патрабавалі ад яго пералічыць на рахунак гарвыканкама не меней за 100 долараў.

Прэс-сакратар Мінскага гарвыканкама Віктар Шымолін абверг інфармацыю аб тым, што раённыя адміністрацыі прымушаюць некага ахвяраваць валюту ў стабілізацыйны фонд. Па яго словах, усе грошы былі пералічаныя добраахвотна, бо на адмысловай нарадзе старшыня гарвыканкама Уладзімір Ярмошын забараніў кіраўнікам раёнаў аказваць ціск на прадпрыемствы і камерсантаў. Віктар Шымолін таксама запэўніў нас, што ніякага плана збору грошай па раёнах не існуе.

Акцыя па зборы рублёў і валюты працягваецца. Так што калі вам раптам захочацца дапамагчы Мінску і ахвяраваць сотню-другую долараў, звяртайцеся ў гарвыканкам. Там вам паведамяць, на які рахунак можна будзе зрабіць ахвяраванне.

**Міхась КАРПОВІЧ**

**М**АСКОЎСКІ цэнтр імя Андрэя Сахарава выдаў кнігу пад назваю «Беларусь і Расія: грамадствы і дзяржавы». Гэта зборнік артыкулаў беларускіх, расійскіх і заходніх палітолагаў, якія даследуюць праблемы беларуска-расійскіх дачыненняў.

Складальнік зборніка, вядомы маскоўскі публіцыст, доктар гістарычных навук Дзмітрый Фурман лічыць, што *«няма ў свеце больш дзіўных адносінаў паміж дзяржавамі і народамі, чым цяперашнія адносіны Беларусі і Расіі»*. Маўляў, беларускі прэзідэнт вельмі негатыўна ставіцца да існуючага ў Расіі ладу і, разам з тым, актыўна імкнецца аб'-

Прадаецца Рэспубліка Беларусь у харошым са-стаянні. Абрашчацца па адрасу: г.Мінск, бальшой дом у цэнтры. Спрасіць Сашу

# «Савецкія беларусы» паступова становяцца нацыяй

яднацца з нелюбімай краінаю. Які яшчэ прэзідэнт можа беспакарана называць расійскае кіраўніцтва «дзермакратамі»?

Такім парадаксальным, на першы погляд, міждзяржаўным дачыненням ёсць рацыянальнае тлумачэнне. Яго і спрабуюць даць на старонках кнігі аўтары матэрыялаў. Пачынаючы ад экскурсу ў гісторыю станаўлення беларускага этнаса і заканчваючы даследаваннем перыпетыяў сучаснай г.зв. інтэграцыі дзвюх краінаў, навукоўцы прыходзяць да высновы, што галоўная прычына абыякавасці большасці беларусаў да лёсу сваёй дзяржавы заключаецца ў слабаразвітым пачуцці нацыянальнай свядомасці. Як піша той жа Дзмітрый Фурман: *«З усіх «тытульных» народаў былых савецкіх рэспублік беларусы валодалі найбольш неразвітай нацыянальнай свядомасцю. Незалежнасць прыйшла да іх не ў выніку барацьбы ці ўсеагульнага волевыяўлення, а ў выніку дзеяння знешніх фактараў, такіх, як распад СССР»*.

Аднак, аўтары лічаць, што, нягледзячы на ўсе цяперашнія складанасці, Беларусь мае шанц выйсці на нармальны дэмакратычны шлях развіцця. На іх думку, ва ўмовах лукашэнкаўскага рэжыму «савецкія беларусы» вельмі хутка пачалі трансфармавацца ў сучасную дэмакратычную нацыю.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# У бітвах за яйкі

*«Алё, гэта рэдакцыя? Учора ў прадуктовай краме на вуліцы Кузьмы Чорнага ў чарзе за яйкамі задавілі жанчыну».*

Такі званок атрымалі мы ў аўторак ад нашага чытача. Пехалі «разбірацца», толькі на месцы ніхто інфармацыю пра інцыдэнт, тым больш са смяротным вынікам, не пацвердзіў. Не паспела наша «брыгада хуткага рэагавання» вярнуцца ў рэдакцыю, як паступіў новы званок: прадаўшчыца адной мінскай крамы павесілася з-за таго, што на яе наклалі штраф за продаж у адныя рукі больш смятаны, чым устаноўлена нормамі.

*«У зводках здарэнняў за апошнія дні нічога падобнага не зафіксавана»*, — паведамілі рэдакцыі ў прэс-службе мінскай міліцыі і ў якасці доказу заявілі, што ў снежні ў Мінску не было факта, каб жанчына скончала жыццё самагубствам.

Мы б і радыя не звяртаць увагі на падобныя «навіны», але сённяшняя рэчаіснасць вымушае нас правяраць нават самыя неверагодныя факты.

Нагадаем закон інфармацыі: людзі вераць у нейкія звесткі толькі ў тым выпадку, калі яны цалкам верагодныя. Гэтак і з'яўляюцца чуткі.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**



***Прадаваць няма чаго, але 27 лістапада ў Смаргоні ўрачыста адчынілася новая малочная крама «Бурёнка». На адкрыццё сабралася ўсё раеннае начальства, а таксама шмат публікі. Першаму пакупніку быў уручаны прыз і пажыццёвае пасведчанне на права пазачарговай пакупкі (здымак з «Новай газеты Смаргоні»).***

# Еўрасаюз даў маху?

**Беларускі Народны Фронт расцэньвае нядаўна прынятую сумесную заяву міністра замежных справаў Беларусі і кіраўніцтва Еўрасаюза аб урэгуляванні праблемы вакол комплекса «Дразды» як уступку еўрапейскай супольнасці «рэжыму Лукашэнкі».**

Як адзначаецца ў прынятай адносна гэтага заяве Сойма БНФ, змякчэнне пазіцыі Еўрапейскага саюза ў адносінах да кіраўніцтва Беларусі *«не мае падстаў і не да часу»*, паколькі менавіта зараз *«у Беларусі ўзрастае сацыяльны і палітычны пратэст супраць дыктатуры»*. *«У гэтай сітуацыі*, — лічыць Сойм БНФ, — *гаварыць з рэжымам Лукашэнкі магчыма толькі мовай дакладных патрабаванняў: дамагацца выканання міжнародных дагавораў, аднаўлення канстытуцыйнай законнасці, вызвалення палітычных вязняў, спынення праследавання прэсы, разняволення эканомікі». «Іншы спосаб размовы толькі ўпэўніве дыктатуру ў беспакаранасці»*, — гаворыцца ў заяве.

*БелаПАН*

## *Лісты ў рэдакцыю*

**КАНСЕРВАТЫЎНАЯ ПАРТЫЯ** Вялікабрытаніі арганізавала ў канцы лістапада для актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі Беларусі тыднёвы трэнінг у Лондане. Дзякуючы гэтаму я ўпершыню патрапіў на Захад і, акрамя карысных палітычных ведаў, атрымаў магчымасць на свае вочы пабачыць, як «загнівае» капіталізм.

Сказаць, што брытанцы жывуць лепш за нас — гэта нічога не сказаць. Яны наогул жывуць іншым жыццём, іх турбуюць зусім іншыя праблемы. Ім не трэба бегаць па крамах у пошуках яек альбо масла. Яны проста жывуць: думаюць, як уладкаваць новы асабняк альбо куды паехаць адпачываць — у Іспанію ці Італію.

У адным з атэляў мы выпадкова сустрэлі былую мінчанку. Яна працуе звычайнай пакаёўкай у атэлі, атрымлівае каля 1,5 тысячы фунтаў у месяц (і гэта без добрага англійскага!). Паспрабуйце, паважаныя суграмадзяне, памножыць гэтую суму на 300.000 рублёў. Вясёленькая атрымаецца арыфметыка! І гэта пры ўсім пры тым, што грамадзяне Вялікабрытаніі зарабляюць нашмат больш. Прадукты ў Англіі даражэйшыя, чым у Беларусі, але затое яны высокай якасці і няма ніякага дэфіцыту, а за 3 фунты можна вельмі добра павячэраць. Цэны на адзенне прыкладна такія ж, як у нас.

**Аляксандр СІЛІЧ,**
*член АГП*

**МНЕ 40 ГАДОЎ**, жанаты, маю трох дзяцей. Закончыў тэхнікум фізкультуры, а таксама Мінскую вышэйшую школу міліцыі (у 1991 годзе). Працаваў участковым інспектарам, даслужыўся да капітана міліцыі. Але з лютага гэтага года вымушаны працаваць у калгасе, бо жыву ў калгасным доме. У нас тут дыктат цяпер. Старшыня калгаса правеў цераз праўленне такое рашэнне, каб усе дамы, якія былі пабудаваныя калгасам, перавесці ў катэгорыю службовага жылля. (Смешна: як калгас мог іх пабудаваць, калі сам пастаянна знаходзіцца на датацыі ў дзяржавы.) Цяпер за самую дробную правіннасць цябе могуць выгнаць з калгаса і з хаты. Ужо ёсць такія факты. Вось такія парадкі. Мне пакуль гэта не пагражае, але...

Трэба мяняць сістэму. Пачуў, што БНФ хоча папоўніць свае шэрагі, я з тых, на каго можна разлічваць.

**Павел ЕЛЕЦ,**
*вёска Губерня Драгічынскага раёна Брэсцкай вобл.*

*В Латвии скоро начнется суд над бывшим советским партизаном Василием Кононовым, которого обвиняют в геноциде против латвийского народа*

# Прокуратура Латвии расследует военные преступления

75-летний гражданин Латвии Василий Кононов был арестован в августе 1998 г. Прокуратура обвиняет его в совершении военного преступления. Следователи установили, что партизан Кононов в 1944 году принимал участие в уничтожении 9-ти жителей латвийской деревни Малые Баты. Согласно версии прокуратуры, в 44-м году В.Кононов во главе «группы диверсантов» в целях возмездия атаковал деревню, где ранее были уничтожены попавшие в засаду партизаны. Немецкого гарнизона в деревне не было, а погибли мирные жители. Это и дает основание обвинять В.Кононова в «преступлениях против мирного населения». Ему грозит пожизненное тюремное заключение.

Расследованием преступлений против человечества занимается специальный отдел Генеральной прокуратуры Латвии во главе со старшим прокурором Улдисом Стрелисом. Отвечая на вопрос журналистов о том, сколько человек по собранным прокуратурой материалам было привлечено к уголовной ответственности, прокурор сказал, что в суде было рассмотрено только одно дело: против шефа латвийского НКВД А.Новикса. Но в стадии расследования находится множество дел. Некоторые из них уже завершены и направлены в суд, где ждут своей очереди, в том числе и дело Кононова.

*«Нас часто упрекают в том,* — сказал прокурор, — *что мы не возбудили ни одного уголовного дела против латышей, служивших во время войны на стороне немецкой армии. Но все запятнавшие себя кровью невинных жертв уже осуждены».*

Говоря о резолюции, которую приняла российская Дума в защиту В.Кононова, прокурор У.Стрелис заявил: *«Мне неприятно это читать. Мы привлекаем Кононова не за то, что он воевал на одной или другой стороне. А за конкретные преступления. Имеются факты, что именно он организовал убийство сельских жителей. В том числе трех женщин, одна из которых была беременна. Некоторые русские газеты называют людей, погибших от рук Кононова, фашистами. Как ими могут быть простые жители деревни?»*

**Ветераны, которые выступили на защиту бывшего партизана, утверждают, что атакованные отрядом В.Кононова в деревне Малые Баты «мирные жители» на самом деле были вооруженные нацистами полицаи и являлись их пособниками. Делегация российских ветеранов, бывших партизан и подпольщиков, посетила в Москве посольство Латвии и передала адресованное президенту Гунтису Улманису обращение с выражением протеста против преследования Василия Кононова и с призывом немедленного освобождения из-под ареста пожилого человека, страдающего к тому же серьезными заболеваниями.**

**Роман ГОЛУБЕВ**

# Дело о 500-долларовой банкноте евро

**В ПОСЛЕДНИХ** числах ноября в Лондоне состоялось закрытое совещание Интерпола и представителей таможенных служб стран ЕС, в ходе которого высказывались опасения выпуска в обращение 500-евровых банкнот. Учитывая, что одна такая «бумажка» будет эквивалентна более чем 500 долларам США, транспортировка криминальными группировками крупных сумм через границу не представит особых затруднений: два миллиона евро вполне уместятся в маленьком атташе-кейсе.

Правоохранительные службы стран–членов Европейского Союза, Совет Европы, а также Интерпол и Международная таможенная организация приняли решение о проведении в начале 1999 года специального совещания по вопросам предотвращения финансовых преступлений с использованием новой денежной единицы Европы — евро. Место проведения конференции, которая должна состояться в канун Кельнского саммита лидеров «большой восьмерки» в мае, пока не определено.

В повестку конференции, решение которой будет представлено на весеннее заседание Евросоюза на уровне министров, предполагается вынести вопрос о возможном аннулировании обращения банкнот достоинством в 500 евро.

*Великобритания*

# Китайцы – самые зажиточные

**Этнические китайцы, проживающие на Британских островах, являются наиболее высокооплачиваемой группой населения Великобритании, опережая даже белых британцев. Самая бедная этническая группа — выходцы из Пакистана и Бангладеш.**
**Таковы выводы исследования, обнародованные на днях Институтом экономических и социальных исследований.**

По данным исследования, средний британский китаец зарабатывает 368 фунтов (607 долларов) в неделю, в то время как средний еженедельный заработок белого британца составляет 331 фунт (546 долларов). Британец индийского происхождения получает 317 фунтов (523 долларов), африканского — 311 (513 долларов), выходец из Пакистана и Бангладеш — всего 220 (363 долларов).

Уровень безработицы среди китайцев самый низкий — 9 процентов, у белых он достигает 15 процентов, индийцев — 17, африканцев — 31, пакистанцев и бангладешцев — 39.

Авторы исследования подчеркивают, что уровень жизни у этнических меньшинств обычно бывает ниже уровня жизни основного населения страны. В принципе в Великобритании такая же ситуация за исключением китайской и индийской общины, уровень жизни которых практически не отличается от уровня жизни коренных британцев. Это объясняется прежде всего тем, что у китайцев и индийцев довольно высокий уровень образования. В большинстве своем они приехали в Великобританию в 70-х годах и знают английский очень прилично. Женщины в китайских и индийских семьях как правило работают, что, естественно, увеличивает доходы всей семьи.

А вот у пакистанцев и бангладешцев с образованием и языком плоховато. Кроме того, женщины у них обычно не работают — ислам не велит.

**Владимир МИХАЙЛОВ**

# Татьяна – последний советник Ельцина

**СЕГОДНЯ** в Кремле остался лишь один человек, способный с утра до вечера влиять на все более непредсказуемого Б.Ельцина. Это его дочь Татьяна Дьяченко

## Детство

Татьяна родилась 17 января 1960 г. Школу окончила в 77-м уже дочерью первого секретаря обкома. Медали не получила: были «четверки» по русскому и литературе. Последний раз бывшие одноклассники встречались в апреле 97-го — на 20-летие окончания школы. Приезжала и Татьяна Дьяченко. Говорят, помимо прочего просила особо не рассказывать журналистам о ее прежней жизни.

Летом 77-го, несмотря на слезы матери, Таня улетела в Москву — поступать на весьма престижный факультет вычислительной математики и кибернетики МГУ. В университете познакомилась с Виленом Хайруллиным из Уфы, вместе с ним ездила на практику в Башкирию. 11 апреля 1980 года они поженились. В 1981 году у них родился сын, названный в честь деда Борисом.

В 1983 году Татьяну распределили в лабораторию баллистики оборонного КБ «Салют». За 130 рублей в месяц она составляла программы траектории полета космических аппаратов.

## Чубайс – вне подозрений

Жизнь с Виленом Хайруллиным не сложилась: после 5-го курса он улетел в Уфу, а Татьяне еще надо было год учиться. По слухам, там у него



появилась другая. Татьяна подала на развод. С тех пор имя Вилена вычеркнуто из истории семьи Ельциных.

Семейное счастье Татьяна нашла с Алексеем Дьяченко, выпускником МАТИ, позже ушедшим в бизнес. Как утверждает супруга, ее муж — обычный «директор фирмы по деревообработке». По другим данным, А.Дьяченко — владелец крупного пакета акций «Интер-Урала», одного из главных экспортеров металлургической продукции уральского региона. Судя по всему, неплохо зарабатывает — во всяком случае, на обучение Бориса в Англии, стоящее десятки тысяч долларов в год, хватает. Муж был против ухода Татьяны в политику и назначения советником президента, но его не послушали.

С приходом Татьяны Дьяченко в Кремль злые языки приписывали ей роман с А.Чубайсом. *«Никогда не поверю, что у Тани может что-то быть с этим рыжим»,* — так прокомментировала этот «роман» родственница Ельциных.

## Охрана не роскошь

Татьяна Дьяченко имеет кабинет в «президентском» корпусе Кремля, служебный «Мерседес» с мигалкой и машину сопровождения, мобильный телефон. Всегда и всюду опаздывает, но при этом обязательно извиняется. Очень скрытна, никогда не говорит о семье. И вообще говорит мало — особенно на совещаниях, больше слушает. Не обсуждает домашние дела по телефону. Не надменна, всегда и со всеми на «вы». Золота не носит, одевается неброско, хотя вещи очень дорогие. Любит пиджаки от Юдашкина. До недавних пор юбкам и платьям предпочитала брюки. С того дня, как в подъезде дома на улице Белорусской на нее набросился какой-то мужик, имеет охрану. Не курит, любит шампанское.

## «Серый кардинал»?

Приобщение Татьяны к власти началось весной 96-го. Сама Дьяченко говорит, что тогда ее вызвал отец и заявил: «С сегодняшнего дня начинаешь заниматься моими выборами». По утверждению же Б.Березовского, вовлечь Таню в предвыборную кампанию придумал В.Юмашев, который считал эту идею «гениальной». После этого Т.Дьяченко стала одной из ключевых фигур ельцинского предвыборного штаба. В июне 97-го года Б.Ельцин назначил дочь своим советником по имиджу. «Папа нелегко принимал решение. Но принял. Надо было решить, кто я: человек с улицы или еще кто-то. Назначение снимает двусмысленность моего положения», — прокомментировала она указ на своей первой и пока последней пресс-конференции. Татьяна Дьяченко присутствует на всех кремлевских заседаниях и совещаниях, где рассматриваются даже мало-мальски значимые вопросы. С 96-го года она — основной канал донесения информации до президента и один из основных игроков на политической сцене (как утверждают в Кремле, теперь ни одно кадровое решение не принимается без обсуждения с нею). Говорят, Т.Дьяченко принимала активное участие и в подготовке последних кадровых решений президента по разгрому верхушки своей администрации.

*По материалам газеты «Комсомольская правда»*



*Татьяна Дьяченко с мужем Алексеем на пикнике.*

# Александр Лукашенко взял в свою команду Павла Буре

Как написала вчера «Комсомольская правда», приезд Павла Буре в Минск был обставлен режимом особой секретности. И до тех пор, пока знаменитый хоккеист не появился на обновленном крытом катке в парке им. Горького, о его пребывании в Минске знал только президент страны. Поскольку именно он и пригласил Буре поиграть в хоккей. Бывший хоккеист клуба НХЛ на этот раз вышел на лед в команде президента Беларуси. Обменявшись парой-другой пасов, Лукашенко и Буре пришли во взаимный восторг. Паша похвалил президента, высоко оценил его профессионализм как первого хоккеиста страны и высказал уверенность в том, что с таким лидером наша страна точно не пропадет.



Лукашенко на радостях — хоть кто-то уверен в великом будущем Беларуси — решил не отпускать Буре домой без праздничного пряника. В качестве последнего был предложен творческий вечер Игоря Крутого с участием не менее крутых артистов. Лещенко, Винокур, Буйнов, Вайкуле, Аллегрова и Леонтьев были счастливы петь перед пятитысячным залом, возглавляемым лично президентом страны. Зал был счастлив лицезреть Буре и его красавицу маму. Сам же Паша был задумчив. Грусть в зеленых глазах, похоже, выдавала невеселую думу хоккеиста: куда ни приеду — везде Крутой.

**Наталия КРИВЕЦ**

## Кошты на аўтамабілі падаюць

У Гродне на аднаго пакупніка аўтамабіля прыпадае 350 прапановаў.

Такія звесткі па стане на сярэдзіну лістапада паведаміў штотыднёвік «Белорусский рынок». Значна знізіўся не толькі попыт, але і кошты на патрыманыя аўтамабілі. Напрыклад, «Фольксваген-Пасат» 1991 г. выпуску каштаваў у ліпені 1998 г. у сярэднім 7.150 доляраў, а цяпер кошт знізіўся да 5.200 доляраў. Тым часам кошты на «Жыгулі» знізіліся нязначна, напрыклад, за ВАЗ-2106 просяць 1,4–1,5 тысячы доляраў.

**Андрэй ПРАКАПОВІЧ**

## Міністры раяцца

У Маскве 15 снежня пачалося чарговае паседжанне міністраў унутраных справаў краінаў СНД. Беларускую дэлегацыю на гэтай сустрэчы ўзначальвае міністр Валянцін Агалец.

Удзельнікі паседжання, якое будзе працягвацца да 18 снежня, абмяркуюць ход выканання Міждзяржаўнай праграмы сумесных мераў барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і іншымі небяспечнымі злачынствамі на перыяд да 2000 года.

## Кантрабандны бензін

На ўчастку Пінскага пагранічнага атрада ў раёне пункта пропуску «Макраны» (Брэсцкая вобласць) быў затрыманы аўтамабіль «Мерседэс», на якім грамадзянін Украіны спрабаваў незаконна вывезці з тэрыторыі рэспублікі 400 літраў дызельнага паліва. Прыкладна на тым жа месцы былі затрыманы і два грамадзяніны Беларусі. Першы спрабаваў незаконна пераправіць праз мяжу 220 літраў дызпаліва, другі — 250 літраў бензіну і 550 літраў дызпаліва. На ўчастку Лідскага пагранічнага атрада ў раёне пункта пропуску «Беняконі-1» (Гродзенская вобласць) затрыманы тры грамадзяніны Беларусі і два — Літвы, якія ў агульнай складанасці спрабавалі перавезці праз мяжу больш за 22 тоны мяса.

*БелаПАН*

## За три года – 10.000 нелегалов

**В Соединенных Штатах на днях разгромлен крупнейший преступный синдикат, организовавший регулярную доставку в США тысяч нелегальных иммигрантов из Индии. Причем одним из перевалочных пунктов при их доставке была Москва.**

Как заявила министр юстиции США Джанет Рено, разгромленная группировка была самой крупной криминальной организацией по «торговле людьми», с которой когда-либо приходилось иметь дело американским правоохранительным органам.

За последние три года преступники переправили по маршруту Дели-Москва-Куба-Багамы-Майами свыше 10.000 нелегальных иммигрантов в основном из Индии, а также из Пакистана и Афганистана. Ежемесячно перевозилось около 300 человек. За доставку каждого человека преступный картель получал до 20.000 долларов.

По прибытии нелегалы передавались работодателям, на которых они были должны трудиться до тех пор, пока не покрывали расходы на их доставку. Большинство индийцев оставалось на восточном побережье США, но далеко не все. Полиция вместе со Службой иммиграции и натурализации (СИН) выявили индийских нелегалов и работодателей, незаконно нанявших их, в 38 штатах.

Глава преступной организации Нитин Детти арестован на Багамах. В различных странах мира задержаны также двадцать его помощников. Операция проводилась ФБР совместно с СИН, а также правоохранительными органами Багамских островов, Канады, Эквадора, Индии и Панамы.

**Владимир МИХАЙЛОВ**

# ЦРУ без працы не застанецца

### Так пачыналася ЦРУ

На працягу амаль 50 гадоў асноўнай мэтай ЦРУ быў збор інфармацыі пра галоўнага ворага Злучаных Штатаў — Савецкі Саюз.

Цэнтральнае разведвальнае ўпраўленне (ЦРУ) было створанае ў 1947 годзе, каб даць адпор нарастаючай пагрозе з боку СССР і перадухіліць магчымы напад на ЗША.

Аднак, як прызнаўся былы дырэктар ЦРУ Рычард Хелмс, амаль да 1960 года яны практычна не мелі «сваіх людзей» на тэрыторыі Савецкага Саюза. Толькі пасля запуску ў космас спадарожніка-шпіёна «Карона», а таксама пры дапамозе шпіёнскага самалёта *U-2* ЦРУ атрымала магчымасць зазірнуць, што робіцца па той бок «жалезнай заслоны».

Аднак палёты на *U-2* былі небяспечныя, бо, нават набраўшы найбольшую высату, самалёт заставаўся ў межах дасягнення савецкіх ракетаў. Калі ў траўні 1960 года савецкім ракетчыкам удалося збіць адзін з такіх самалётаў, то спачатку ўлады ЗША заявілі, што гэта быў метэаралагічны самалёт, які выпадкова патрапіў у савецкую паветраную прастору. Аднак калі пазней Саветы прад'явілі амерыканцам жывога пілота *U-2* У.Паўэрса, то Злучаныя Штаты былі вымушаныя прызнаць, што самалёт выконваў шпіёнскія функцыі.

### Сакрэтныя аперацыі

У 50-х гадах ЦРУ пачало свае аперацыі ў дзесятках іншых краінаў. На словах супрацоўнікаў гэтага ведамства, мэтай заўсёды ставілася распаўсюджванне амерыканскага ўплыву ва ўсім свеце. Менавіта з гэтай мэтай ЦРУ арганізавала дзяржаўныя перавароты ў Іране ў 1953 годзе, у Гватэмале — ў 1954 годзе. У выніку пераваротаў у гэтых краінах да ўлады прыйшлі праамерыканскі настроеныя лідэры, якія стаялі на чале дзяржаваў дзесяцігоддзямі.

У 60-х галоўным болем для ЦРУ стала існаванне кастраўскага рэжыму на Кубе. Планавалася амерыканскае ўварванне на Кубу і нават забойства Фідэля Кастра. Аднак усе праэкты ЦРУ скончыліся правалам.

У 70-я гады ЦРУ давялося выцягнуць з шафы сваю «брудную бялізну»: на паверхню выплылі забойствы, учыненыя агентамі сакрэтнай службы за межамі ЗША, змовы і дзяржаўныя перавароты ў іншых краінах. У амерыканскім Сенаце прайшлі слуханні, прысвечаныя ЦРУ, пасля якіх парламент ускладў на прэзідэнта ЗША адказнасць за ўсе сакрэтныя аперацыі спецслужбы і абавязаў ЦРУ рабіць справаздачы перад Кангрэсам.

### Як «дабівалі» СССР

У 80-я гады тагачасны дырэктар ЦРУ Ўільям Кейсі пайшоў насуперак забароне Кангрэса і санкцыянаваў баявыя дзеянні ў Нікарагуа супраць левага ўрада. Гэта спрабавала канфлікт паміж парламентам і ЦРУ. Кангрэс адмовіўся фінансаваць нікарагуанскіх партызанаў–«контрас», якія пры падтрымцы ЦРУ распачалі грамадзянскую вайну супраць існуючага пракамуністычнага рэжыму. Белы дом разам з кіраўніцтвам ЦРУ распрацавалі сакрэтныя схемы, як самім зарабіць сродкі на правядзенне аперацыі ў Нікарагуа. У прыватнасці ЦРУ за наяўныя грошы прадавала іранскім радыкалам зброю, каб потым з гэтых сродкаў фінансаваць «контрас». Калі факт продажу зброі стаў вядомы, гэта стала найгоршай паразай знешняй палітыкі ЗША дзесяцігоддзя.

У той жа час, ЦРУ працягвала перадаваць зброю на мільярды доляраў у Афганістан, дапамагаючы маджахедам змагацца з Савецкай арміяй. Мільт Бірдэн, які адказваў у ЦРУ за падтрымку афганскіх маджахедаў, заявіў, што гэта была найбуйнейшая сакрэтная аперацыя за ўсю гісторыю ЦРУ. На ягоную думку, менавіта яна змяніла ўвесь ход «халоднай вайны» і дазволіла дабіць «імперыю зла» — Савецкі Саюз.

### Будучыня ЦРУ

У 90-х гадах, калі скончылася «халодная вайна», у ЦРУ з'явіліся іншыя ворагі — тэрарысты, крымінальныя групоўкі, а таксама некаторыя «агрэсіўныя» нацыі, што жадаюць мець ядзерную, біялагічную і хімічную зброю. Каб ведаць, што прадстаўляюць сабой гэтыя ворагі, ЦРУ даводзіцца «супрацоўнічаць» з тэрарыстамі, злачынцамі і гандлярамі зброяй.

Сённяшні дырэктар ЦРУ, Джон МакЛафлін, кажа, што цяпер галоўная задача ЦРУ — злавіць Усаму бін Ладэна, які падазраецца ў арганізацыі выбухаў у амерыканскіх амбасадах у Кеніі і Танзаніі ў жніўні гэтага года. Але без свайго чалавека ў атачэнні саудаўскага мульцімільянера гэта будзе зрабіць вельмі цяжка.

*Па матэрыялах The New York Times падрыхтаваў*
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*Россия*

## Грязное белье как путь к власти

Александр Коржаков, бывший шеф службы безопасности президента России, заявил журналистам, что Борис Березовский *«шантажирует семью Ельциных — он пообещал рассказать обо всех ее счетах и зарубежной собственности»*. Чтобы его обвинения не выглядели голословными, Коржаков даже назвал имя «кассира» президента — *«Роман Аркадьевич Абрамович из «Сибнефти». «Спросите у него, почему его называют кассиром? Спросите, где счета и недвижимость семьи?»* — подстрекал Коржаков репортеров.

Здесь Коржаков, мягко говоря, слукавил. Уж ему наверняка известно, что и журналисты, и другие заинтересованные люди не раз пытались узнать тайну президентских вкладов у генерального директора компании «Сибнефть» Романа Абрамовича. Но до сих пор эти попытки заканчивались ничем. Более того, ни разу никому из любопытствующих не удалось найти никаких документальных доказательств того, что Абрамович связан с президентской семьей какими-то финансовыми делами.

Видимо, поэтому Борис Березовский так спокойно отреагировал вчера на откровения Коржакова: это, по словам Березовского, лишь *«поток сознания»*, который требует *«подробного изложения без всяких комментариев»*. А пресс-секретарь президента Дмитрий Якушкин высказал предположение, что *«таким образом бывший шеф СБП просто пытается привлечь к себе внимание»*. Попытки получить какие-то комментарии от самого Абрамовича успехом не увенчались. Понимая, что для того, чтобы «завалить» Березовского, одних слов про Абрамовича недостаточно, Коржаков решил заново достать из нафталина все, что он уже рассказывал раньше. Он продемонстрировал видеокассету, записанную почти четыре года назад — сразу после убийства Владислава Листьева. На ней Березовский жалуется Ельцину, что покушались и на его жизнь, после чего делает следующий вывод: *«Из-под вас, Борис Николаевич, выбивают последних преданных людей»*. На той же кассете президент телекомпании *REN TV* Ирена Лесневская обвиняла главу Мост-банка Владимира Гусинского и мэра Москвы Юрия Лужкова в причастности к убийству с целью совершить переворот и заменить Ельцина на Лужкова.

Близкая подруга Наины Ельциной Ирена Лесневская отреагировала на слова Коржакова немедленно. *«Единственная цель публикации этой записи — желание поссорить меня и Березовского с Лужковым и Гусинским»*, — сказала она.

**К.Д.**

**Падпіска працягнутая да 19 снежня!**

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173.
Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 1274 Нумар падпісаны ў друк 15/12/98 (15:00) Наклад — 18.230